www.nv-online.info

№ 9 (4158)

31 студзеня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ПАД ГРАДУСАМ

## Надвор'е б'е рэкорды

*Сіноптыкі адзначаюць, што на гэтым тыдні тэмпература паветра ў Беларусі будзе на 3–5 градусаў вышэй за норму.*

У **аўторак 31 студзеня** невялікі снег магчымы толькі на поўначы нашай краіны. У начныя гадзіны прагназуецца -3…-9ºС, у Гомельскай вобласці – да -14ºС. У дзённыя гадзіны чакаецца -1…+7ºС.

У **сераду 1 лютага** будзе пераважна без ападкаў, невялікі снег магчымы толькі на Віцебшчыне. Уначы будзе -3…-9ºС (пры праясненнях да -12ºС), удзень – 0…-5ºС.

У **чацвер 2 лютага** мокры снег і дождж прагназуюцца толькі ў Брэсцкай вобласці. У начныя гадзіны магчыма -3…-8ºС (пры праясненнях – да -10ºС), у дзённыя гадзіны – -4…+3ºС.

У **пятніцу 3 лютага** кароткачасовы снег прагназуецца ў асобных раёнах. Уначы чакаецца -1…-7ºС (пры праясненнях – да -9ºС), удзень – -5…+2ºС.

Што да **выхадных дзён**, то ў начныя гадзіны чакаецца 0…-7ºС (пры праясненнях – -8…-12ºС), у дзённыя гадзіны – -6…+1ºС.

ВАНДАЛІЗМ

## Пад суд!

*Завершана расследаванне крымінальнай справы супраць трох жыхароў Магілёва, якіх абвінавачваюць у апаганьванні помніка «У памяць аб яўрэях Магілёва – ахвярах нацызму».*

Абвінавачваныя па справе праходзяць тры юнакі – 16, 17 і 19 гадоў. Следчыя лічаць, што маладыя людзі наўмысна аблілі чорнай фарбай памятны знак.

СТОП-КАДР




*Падчас пасяджэння аргкамітэта па правядзенні так званага "Маршу недармаедаў".*

МІНСК–ВАРШАВА

## Дэлегацыя Палаты прадстаўнікоў – у Польшчы

Знаходзячыся ў Варшаве, намеснік старшыні Палаты прадстаўнікоў Балаславу Пірштук і старшыня Камісіі па міжнародных справах Валерый Варанецкі намагаюцца зрабіць больш цесныя стасункі паміж беларускімі і польскімі ўладамі. У іх праграме – сустрэчы з кіраўніцтвам Сейма і Сената Рэспублікі Польшча, членамі польска-беларускай парламенцкай групы, а таксама з дзелавымі коламі.

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Каго затрымалі разам з Аляксандрам Кныровічам?

*Сярод тых, хто апынуўся разам з вядомым бізнесменам у поле зроку праваахоўных органаў, шмат дзяржаўных чыноўнікаў.*

Калі верыць паведамленню прэс-службы КДБ, усе яны прызналі сваю віну. Вось прозвішчы гэтых людзей.

**Андрэй Паўлавіч Жур**, начальнік цэха «Кацельная гаспадарка» ДУВП «Бярозаўская ЖКГ". Дарэчы, у 2014 годзе Жур быў занесены на Дошку гонару Бярозаўскага раёна як перадавік вытворчасці паводле вынікаў года.

**Андрэй Уладзіміравіч Клец**, ён выконваў абавязкі начальніка аддзела матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў РУП «Брэстэнерга».

**Ігар Пятровіч Сцішонак**, начальнік бюро матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння КВУП «Гомельабленцеплосеці».

**Максім Аўдзяйчук** і **Мікалай Даніловіч** з аддзела забеспячэння УВТК КУП «Брэстжылбуд».

Дырэктар ТАА «Аншанс Плюс» **А.Калтуноў**, які прадстаўляў на біржы інтарэсы КВУП «Гомельабленцеплосеткі» і РУП «Свіслацкая ЖКГ».

За дачу хабару затрыманы намеснікі Кныровіча па камерцыйных пытаннях **Я.Папоўскі** і па фінансах і эканоміцы **І.Максімаў**, а таксама вядучы спецыяліст на знешнеэканамічнай дзейнасці **Н.Казлоўская.**

*"З 2014 года прадстаўнікі ТАА «СарматТэрма-Інжынірынг» шляхам змовы і подкупу кіраўнікоў і службовых асоб прадпрыемстваў ЖКГ і арганізацый энергетыкі забяспечвалі праведзенне «заказных» біржавых таргоў для рэалізацыі дарагой прадукцыі – папярэдне тэрмаізаляваных труб (ПІ-труб),* – паведаміла прэс-служба КДБ з нагоды затрымання Аляксандра Кныровіча. *– Заснавальнікам і дырэктарам ТАА «СарматТэрма-Інжынірынг» з'яўляецца Кныровіч Аляксандр Станіслававіч.*

*...Пры гэтым сумы «адкатаў» закладваліся фірмай у сабекошт прадукцыі, завышаная цана якой пасля ўлічвалася пры фарміраванні камунальных тарыфаў, г.зн. фактычна прыбытак камерсантаў і хабары службовых асоб аплачваліся за кошт насельніцтва...».*

Справа Аляксандра Кныровіча, які быў вядомы сваімі гучнымі заявамі і каментарыямі накшт сітуацыі ў беларускай эканоміцы, выклікала вялікі рэзананс.

Многія абураны словамі А.Лукашэнкі наконт таго, што злодзей павінен сядзець у турме, якія прагучалі на адрас Кныровіча. Існуе прэзумпцыя невінаватасці, і злодзеем чалавека можна назваць толькі пасля суда – аб'ектыўнага і бесстаронняга.

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

## Хватит о Трампе и Путине!

Президенты США и России поговорили по телефону. После окончания «эпохи Обамы», когда были введены масштабные санкции Запада по отношению к России, а затем сама Россия ввела не менее масштабные санкции против самой себя, можно с уверенностью сказать: это действительно событие.

Разговор двух президентов в данном случае – разговор двух политиков, вызывающих каждым шагом нервную реакцию всего мирового сообщества. И с Путиным все неясно (Крым откусил, в Донбассе застрял, в Сирии увяз), и то же самое с Трампом (из режима Транстихоокеанского партнерства вышел, строить стену на границе с Мексикой приказал, что будет с НАТО – никто пока толком понять не может). Можно сказать, что поговорили две величайшие непредсказуемости современной политики.

Хотя – почему Путин остается непредсказуемостью? С ним уже все понятно. Сделает все, чтобы Крым не отдать, из Донбасса вырваться, Сирию использовать для торга с Западом о снятии санкций. Да и с Трампом все относительно просто. Его полномочия и власть огромны, но не беспредельны. Значит, Конгресс и Сенат США будут влиять на него, а там доминируют вовсе не самые благожелательные по отношению к современному российскому руководству настроения.

О другом нужно говорить. Об одиночестве.

Был такой альбом у «Битлз» – «Клуб одиноких сердец сержанта Пеппера». По мнению критиков, это лучший музыкальный альбом за всю историю грамзаписи. Попытка «битлов» отстраниться от уже сформировавшегося исполнительского образа и создать какой-то новый. Мол, да, мы те же, но уже – оркестр сержанта Пеппера. Так сказать, начнем с чистого листа, с новой нотной строки.

Вот и сейчас высшие руководители США и России пытаются говорить «с чистого листа». Обо всем. О Северной Корее и юго-восточной Украине. О Сирии и Израиле. О Европейском и Евразийском союзах. Музыканты все те же, как и «битлы», но им важно показать: это новая музыка, новый альбом, все – по-новому. «Мы будем жить теперь по-новому!» – так, кажется, пела некогда любимая группа Владимира Путина «Любэ»? Пацаны из Люберец, маленького подмосковного городка, державшие в страхе главный российский мегаполис, – это нынешнее российское руководство, пытающееся изменить свой имидж. Имидж провинциальных хулиганов, играющих старую песню и вряд ли способных на реальные перемены.

Проблема, однако, в том, что говорить Трампу еще есть с кем – например, с британским премьером или германским канцлером, а вот Путину – уже нет. Ну не с Башаром Асадом ведь! Да и коллеги по Евразийскому союзу как-то не могут считаться равными. Кредитор и должники не равны по определению. Можно, конечно, поговорить с зеркалом, но это почти бессмысленно. О чем говорить? Каковы будут международные последствия такого разговора?

Собственно говоря, пока непонятны и последствия разговора Путина с Трампом. То есть схема почти понятна:

– Дональд, здравствуйте! С избранием вас!

– Спасибо!

– У нас тут проблемы. Украина и Сирия.

– Ну, я бы добавил Северную Корею.

– Ах, да, я забыл. Простите. Нам бы встретиться и поговорить.

– О! Это идея! Нужно встретиться, непременно нужно. А то вдруг кто-то из нас говорит с пранкером?

– Вы серьезно?

– Шутка, Владимир, это шутка. Хотя после работы ваших хакеров я ничему не удивляюсь.

– Да, личная встреча лучше.

– Дадим поручение нашим помощникам – пусть согласуют графики.

– Конечно. До встречи, Дональд!

– До встречи, Владимир!

Так – или примерно так.

Пусть говорят. Пока разговаривают друг с другом те, от кого хоть что-то все еще зависит в этом мире, есть шанс избежать крупномасштабной войны, в которую, если она, не дай Бог, случится, автоматически будет втянута и наша Беларусь. Диалог – наилучшая гарантия от мордобоя, тем более от глобального мордобоя.

Другое дело – что и нам нужен диалог. Без внутриполитического диалога возможна лишь кладбищенская форма стабильности. А нам нужна живая Беларусь. Беларусь, в которой всем есть место, и это не место по ту или иную сторону колючей проволоки. Только так, все вместе, мы сможем добиться, что нашу страну реально будут уважать и будут считаться с ней как с реальным субъектом мировой политики, а не считать маленькой гиркой на чьей-то сторонней чаше весов.

Хочется верить, что и этот диалог рано или поздно начнется. А то: «Трамп! Путин!» Хватит о Трампе и Путине! Давайте о Беларуси!

НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ!

# ПРЭСА *пад рускамоўным* ПРЭСАМ,

## або Ваяўнічая змова супраць беларускай мовы

Не паверыце, у ноч з мінулай пятніцы на суботу прысніўся сон, быццам усе беларускія газеты сталі цалкам беларускамоўныя. Аж у пот кінула: нават не прыгадваю, каб такое здаралася ад радасці. Зірнуў на гадзіннік – і подбегам пашыбаваў у бліжэйшую, праз дарогу ад мяне, крамку "Белсаюздруку". Раскашэліўся і набыў суботнія нумары "Рэспублікі", "Сельской газеты" і "Мінскай праўды", пятнічны выпуск "Народнай газеты" і прафсаюзны "Беларускі час". "Советскую Белоруссию" купляць не стаў, бо яна, хоць і аб'яўляе сябе цяпер як "Беларусь сегодня", наўрад ці некалі стане нацыянальна арыентаванай. Хіба што прэзідэнт загадае, і тады Павел Ізотавіч і яго гвардыя, безумоўна, возьмуць пад казырок. Праўда, пры нашым доўгатэрміноваправячым прэзідэнце, залежным у многім ад суседкі Расіі, такое наўрад ці здарыцца. Хоць Аляксандр Лукашэнка пры яго харызме мог бы ўвайсці ў гісторыю Беларусі як прэзідэнт-адраджэнец. Яшчэ, між іншым, не позна.

### ПРАЛОГ,
### або Дарэмная мэта – шукаць беларускую мову ў рэспубліканскіх газетах

Які ж я, аднак, быў наіўны, прымхліва паверыўшы ў нейкі, хай сабе і нешараговы, сон! Гартаючы 32 старонкі "Народнай газеты", я толькі на 14-й першы раз наткнуўся на беларускамоўны дыскусійны артыкул дырэктара фонду "Краіна замкаў" Аляксандра Варыкіша "Праблема – у нашай ментальнасці". Беларускай мовай "народнагазетаўцы" ашчаслівілі чытачоў у гэтым нумары і яшчэ раз (?) – у тэматычным выпуску "Культпаход" (і тое не цалкам). Вось і ўсё. Прыехалі, як кажуць. Злазьце, спадары-панове, далей – Расія.

Падумалася: можа, не тую газету ўзяў і "Рэспубліка" больш усцешыць? На маю радасць, насамрэч куды больш: вунь нават з трох два анонсы, вынесеныя над назвай газеты, – па-беларуску. Праўда, так і не зразумеў, чаму анансаваны на беларускай мове матэрыялы – на 3-й і 8-й старонках – напісаны (ці не абсурд?) на рускай. Як, прынамсі, зусім абсурдным выглядае тое, што артыкул Веры Артэгі "Нервовыя клеткі аднаўляюцца", пачаты на першай старонцы, ужо на восьмай працягваецца па-руску і падпісаны зусім іншым прозвішчам – Вера Ганкіна, хоць, мяркуючы па змешчаным знізу электронным адрасе, гэта адзін і той жа аўтар. Няўжо ў "Рэспубліцы" зусім з глузду з'ехалі? Ці, можа, у Веры з двума рознымі прозвішчамі і адным імем духу не хапіла?

Калі ж ісці беларускім шляхам па старонках газеты далей, то мы знойдзем у нумары яшчэ дзве інфармацыі ў традыцыйным выпуску "Намедни. Вы", тры невялікія публікацыі ў "Чытацкім клубе", дзве – на тэматычнай старонцы "Культура", дзе тым не менш чамусьці па-руску Тацяна Арлова рэцэнзуе спектакль купалаўцаў "ГендэльБах", палосны артыкул пра Халакост "Ніколі не забудзем", зроблены паводле матэрыялаў інтэрнэту, паўпалосны – пра еўрапейскі кірмаш мастацтва ў Брусэлі ды тры невялікія расповеды пра багатых людзей планеты пад агульнай назвай "Шмат грошай не бывае". Сітуацыя, як бачым, крыху лепшая, але ўсё адно далёкая ад моўнага парытэту.

Далей на чарзе – "Сельская газета", якая вярнула сабе ранейшую назву, скінуўшы пазнейшую шыльду "Белорусская нива". Дзякуй рэдакцыі за паэтычную рубрыку "Беларускі ручнік", якая цягам многіх гадоў нязменна далучае чытачоў да прыгожага пісьменства. Але ці сябруе газета вяскоўцаў з мовай продкаў акрамя гэтага? Скажам прама: не дужа. У аглядаемым нумары яе сяброўства, калі не браць у разлік першапалосны верш, пачынаецца з… традыцыйнай праграмы Беларускага радыё, якога на вёсцы з-за бязглуздага рашэння аб адключэнні праваднай сеткі ніхто ўжо і не слухае. "Сельскую газету", зрэшты, па-беларуску там таксама не чытаюць, бо падобныя матэрыялы ў ёй – рэдкасць: у суботнім нумары змешчаны толькі адзін – з цыкла "Вандроўкі з Уладзімірам Субатам". Нават інфармацыя пра стварэнне аргкамітэта па святкаванні 500-годдзя беларускага кнігадрукавання падаецца па-рускую. Быццам і сам Францішак Скарына не наш.

Можа, у прафсаюзнай газеце "Беларускі час" сітуацыя з беларускай мовай лепшая? На жаль, мае спадзевы не спраўдзіліся. Нататкі Міхаіла Шыманскага "Гасцiннае бунгала" з вандроўкі ў Індыю – гэта таксама адзіная беларускамоўная паласа з 24 газетных. Асабліва разануў вока публікацыі за подпісам "Уладзімір Гаўрыловіч" (гэта я напісаў імя і прозвішча па-беларуску – у газеце яно падаецца па-руску, як, прынамсі, і матэрыялы над ім). Вядома, што ўладальнік подпісу – не толькі ўласны карэспандэнт газеты па Гомельскай вобласці, а яшчэ і старшыня абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Свае кнігі, дзве з якіх – "Анёлак мой, анёлак…" і "Цяпло маладзіка" – сёлета намінаваны на прэмію Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне літаратуры, Уладзімір Гаўрыловіч піша па-беларуску і, відавочна ж, лічыць сябе беларускім пісьменнікам. Але чаму ён не карыстаецца роднай мовай як журналіст? Адкуль такая двурушнасць? Няўжо не разумее: не будзе мовы, дык і яго раманы ніхто чытаць не стане, хоць наўрад ці і цяпер іх шмат хто чытае. А прэмію Уладзімір, відаць, выбегае, бо ўсё ж газета прышпілена да прафсаюзаў. Мусіць, таму і стараецца лізнуць куды трэба прафсаюзных босаў з іх арыентацыяй на рускае, і гатовы хоць маму родную прадаць дзеля гэтага? Наконт мамы не ведаю, а вось што тычыцца мовы (а яна ўсё ж матчына!), дык тут дакладна ўсё навідавоку. Зрэшты, цяперашні намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатоль Крэйдзіч, будучы галоўным рэдактарам іванаўскай "Чырвонай звязды", таксама не дужа рупіўся пра беларускую мову.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

КУЛЬТАСВЕТ

## Ці дапамагуць музею былыя ВІПы?

Былых чыноўнікаў Мінгарвыканкама выршылі не пакідаць па-за ўвагай і арганізавалі з іх Савет старэйшын. Яны ўжо нават два разы правялі свае пасяджэнні: абмяркоўвалі генплан нашай сталіцы і наведвалі прадпрыемствы Заводскага раёна. А нядаўна для былых ВІПаў арганізавалі экскурсію ў Нацыянальны мастацкі музей – каб падтрымаць культурны ўзровень пенсіянераў. Тым больш што многія, будучы на службе, займаючыся гаспадарчымі справамі горада, дзесяцігоддзямі не заззіралі ў нацыянальную скарбніцу мастацтваў.

Для былых чыноўнікаў экскурсію правёў сам дырэктар музея Уладзімір Пракапцоў. Распавёў, як водзіцца, аб планах музея, аб будаўніцтве новага корпуса. Паказаў, як рэстаўруюцца старажытныя іконы і як не хапае спецыялістаў-рэстаўратараў памяшканняў. Але ці змогуць дапамагчы музею былыя ВІПы?

**Анжаліка КУЗНЯЦОВА.**

НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ!

# Прэса пад рускамоўным прэсам, або Ваяўнічая змова супраць беларускай мовы

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

## Ці чытае «Мінскую праўду» мінскі «губернатар»?

Адклаўшы ўбок рэспубліканскія газеты, вырашыў пацікавіцца: а як моўныя справы ў рэгіянальнай прэсе, у прыватнасці абласной? Ведаю, што брэсцкая “Заря” і “Гродненская правда”, як і ў савецкі час, працягваюць выходзіць выключна на рускай мове. Быццам Беларусь па-ранейшаму ўваходзіць у неіснуючы ўжо з 1991 года СССР, а не з’яўляецца незалежнай дзяржавай са сваёй уласнай тэрыторыяй, мовай (?), урадам і ўрэшце прэзідэнтам. Пра “Гомельскую праўду” ў “Народнай Волі” летась у нумары ад 15 лістапада пісала наша чытачка Святлана Данілава, адна назва артыкула якой – “Мова пад мікраскопам” – гаворыць сама за сябе. Дойдзе чарга і да магілёўскай і віцебскай абласных газет. А сёння хацелася б пагартаць “Мінскую праўду”. І для гэтага ёсць падставы: як-ніяк яна прысталічная, і на каго, як не на яе, раўняцца астатнім? Што ні кажы, а тут і кадравых праблем нашмат меней, чым у іншых рэгіёнах, ды і вопытныя журналісты з рэспубліканскіх газет працуюць побач – у адным будынку, хіба што паверхам ніжэй ці вышэй. Карацей кажучы, ёсць у каго павучыцца.

Толькі вось вучацца мінскія “праўдаўцы”, на жаль, далёка не лепшаму. У тым жа нумары за суботу ад 28 студзеня па-беларуску – толькі адна-адзінюсенькая невялічкая інфармацыя, ды і тая передрукаваная з “Маладзечанскай газеты”. Скажаце, трапіўся такі адыёзны нумар? Што ж, пагартаем усе з пачатку 2017 года. У першым прысутнічае толькі калонка Уладзіміра Куліковіча пад традыцыйнай рубрыкай “Беларускае слоўка”. У другім – тая ж рубрыка і тры вершаваныя “Чатырохрадкоўі” Сяргея Карыцькі, два з якіх пры вёрстцы неабдуманаператвораны ў шасцірадкоўі, у трэцім – тры інфармацыі, перадрукаваныя з раённых газет, уласная пра лядовыя каткі ў Чэрвені, невялікае інтэрв’ю з дырэктарам Купалаўскага музея Аленай Аляшковіч ды палосны аповед Ігара Ганчарука пра дырэктара Маладзечанскага палаца культуры Святлану Сарока, якая на сёлетнія Каляды адзначана спецыяльнай прэміяй прэзідэнта. На дзве беларускамоўныя інфармацыі “раскашэлілася” рэдакцыя ў чацвёртым нумары, тры публікацыі такога кшталту – у пятым. Можа, і досыць стамляць чытачоў падобнай арыфметыкай – няхай хоць за гэты пералік даруюць. Не хацелася ж быць галаслоўным. А так вось усё наглядна – і для рэдакцыі, і для чытачоў.

Безумоўна, большасць беларускамоўных публікацый “Мінскай праўды” – на тэму культуры. Аднак незразумела, чаму матэрыялы рубрыкі “Не сидите дома!” – своеасаблівай афішы мерапрыемстваў, праводзімых ва ўстановах культуры вобласці, як, зрэшты, і яна сама, падаюцца пераважна па-руску. Асабліва недарэчна гэта, калі самі мерапрыемствы называюцца па-беларуску, напрыклад, конкурсы “Краіна мая, радасць мая, песня мая маладая” на Маладзечаншчыне і “Стаўбцоўскі капялюш”, дзень адпачынку “Нядзельны вечарок” і фестываль фальклору “Каляднае сузор’е” на Любаншчыне, маладзёжны фестываль “Васільковы вянок” у Плешчаніцах і свята “Зямлі маёй куточак дарагі” ў Мачулішчах. Ды і мастацкія калектывы, якія бяруць удзел у іх, зазвычай носяць прыгожыя беларускія назвы. А хіба не здзек з памяці народнага паэта Беларусі Максіма Танка, калі аж дзве інфармацыі пра мерапрыемствы, прысвечаныя яму (№№ 2 і 4 за гэты год), апублікаваны не на той мове, на якой пісаў геній нацыянальнай літаратуры?

Як відавочны здзек з роднай мовы ўспрымаюцца і цалкам беларускамоўныя назвы рускамоўных тэматычных палос газеты (як, між іншым, і рубрыка “ТэлеVандроўнік”). Гэта амаль тое самае, што загарнуць у прыгожую абгортку даўно заляжалы на крамных паліцах тавар. Зірнеш на яе – спакусішся набыць, а дома разгорнеш – і ўмомант расчаруешся. Менавіта адно расчараванне два разы на тыдзень – па серадах і суботах – прыносяць тым чытачам, хто любіць сваю Бацькаўшчыну і родную мову, журналісты “Мінскай праўды”.

Адкуль такая абыякавасць у іх да сваіх каранёў і перш-наперш да мовы продкаў? Дзе раслі і чаму раптам сталі манкуртамі? Не сакрэт жа, што газета павінна не толькі аператыўна інфармаваць чытачоў, а і выхоўваць, фарміраваць іх грамадзянскую пазіцыю. Аднак ці здольны на гэта журналісцкі калектыў “Мінскай праўды” на чале з яе галоўным рэдактарам Вольгай Шпілеўскай, калі ў саміх адсутнічае такая пазіцыя і працуюць яны па прынцыпе “куды вецер падзьме”?

Зрэшты, цікавы штрых: газета, якая не публікуе ніякіх літаратурных твораў (а ў савецкія часы выдавала нават літаратурную старонку), тым не менш неаднойчы змясціла пасрэдныя чатырохрадкоўі згаданага ўжо вышэй Сяргея Карыцькі. Ствараецца ўражанне, што іншых паэтаў у вобласці як бы і няма. Але адкуль такая пашана гэтаму адзінаму “чатырохрадкоўцу”? Паглядзеў у біяграфію і даведаўся, што Сяргей Сяргеевіч працуе галоўным урачом Рэспубліканскага цэнтра медыцынскай рэабілітацыі і бальнеалячэння. Дык вось дзе, аказваецца, сабака закапаны! Можа, “мінскапраўдаўцам” (ледзь не напісаў “мінскапрадаўцам”) і насамрэч не пашкодзіць падлячыцца? Ці, больш таго, падшукаць якую іншую клініку? Толькі наўрад ці дзе лечаць ад манкурцтва.

Не пакідае, бесперапынна свідруе мозг і яшчэ адна думка: а ці чытаюць газету ў абласных выканаўчым камітэце і Савеце дэпутатаў, якія разам з рэдакцыяй складаюць тройку яе заснавальнікаў? Няўжо старшыня аблвыканкама Сямён Шапіра і старшыня аблсавета дэпутатаў Іван Ліпніцкі не разумеюць, што, выцясняючы дзяржаўную беларускую мову са старонак свайго друкаванага органа, яны тым самым заплюшчваюць вочы на парушэнне закона аб сродках масавай інфармацыі і ўласнага статута рэдакцыі? Зрэшты, падобным чынам ігнаруюць мову тытульнай нацыі і раённыя газеты, пра што ўжо ў “Народнай Волі” ад 26 красавіка мінулага года ў артыкуле “Хаўтуры па літаратуры – і не толькі па ёй” заклапочана пісаў пісьменнік Анатоль Зэкаў.

## Няскончаны эпілог, або Мова ў пакутах – ад газетных манкуртаў

Сродкі масавай інфармацыі маглі б шмат чаго зрабіць для адраджэння беларускай мовы і пашырэння яе ўжытку сярод розных слаёў насельніцтва. Калі б, вядома, іх кіраўнікі захацелі. І калі б любілі Беларусь і хварэлі за яе. Усім сэрцам і душой. Вось толькі, на жаль, мала такіх журналістаў. Пераважная ж большасць брацііі, што піша, здымае і вяшчае, аказалася без роду і племені, таму замест падтрымкі роднай мовы ўзялі курс на яе выкараненне. З рэспубліканскіх, абласных і раённых газет, зарэгістраваўшы іх як двухмоўныя, а па сутнасці зрабіўшы рускамоўнымі, з эфіру Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі. Быццам не жывуць і не працуюць у незалежнай Беларусі, не вучыліся на журфаку ці не заканчвалі ўжо цяперашні Інстытут журналістыкі БДУ, а аднекуль панаехалі. З місіяй акупантаў. “Пятая калона”, як сказаў бы прэзідэнт. Праўда, так ён чамусьці называе тых, хто за беларускую Беларусь. А на самай справе “пяцікалоннікі” заселі ў рэдакцыях нашых СМІ. Памятаеце, як казаў яшчэ адзін вядомы правадыр – Уладзімір Ульянаў (Ленін): у першую чаргу трэба захапіць тэлефон, тэлеграф, чыгуначныя станцыі, масты. Дык вось, прызнаемся шчыра, беларуская прэса ўжо захоплена, і гэтым захопнікам усё адно, каму служыць. У любы час яны могуць перакінуцца на іншы бок барыкад і ў адзін дзень (а то і хутчэй) здадуць і краіну, і свайго прэзідэнта. Бо такія яны, прадажныя, бесхрыбетна-бесстрыжнёвыя, не маюць уласнага журналісцага “я”, уласнай жыццёвай і грамадзянскай пазіцыі.

…А я зноў згадваю свой сон. І дакараю сябе, што, купляючы газеты, не паглядзеў у выхадныя дадзеныя, хто іх заснавальнікі. У “Народной газеты”, “Рэспублікі” і “Сельской газеты”, як пазначана там, ён, аказваецца, адзін – Установа Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Рэдакцыя газеты “Советская Белоруссия”. А не парламент і ўрад, як было раней, і нават не Адміністрацыя Прэзідэнта. Дык хто заказвае музыку галоўным рэдактарам вышэйназваных выданняў – Ігару Савосценку, Васілю Мацвеенку і Сяргею Міховічу? Чаму яны скачуць пад музыку манкуртаў? Ды яшчэ як скачуць! Проста-такі навыперадкі.

Беларускамоўная “Звязда”, адзіная газета на роднай мове, як сама рэкламуе сябе (ці не жахліва гэта гучыць для суверэннай Беларусі?), пакуль што не ўваходзіць у агульнагазетны калгас. Але хто ведае, магчыма, з часам і яе перавядуць на мову нашай усходняй суседкі. Недарэмна ж, відаць, у крэсла галоўнага рэдактара замест пайшоўшага на павышэнне ў міністэрства інфармацыі Алеся Карлюкевіча пасадзілі нядаўна кіраўніка рускамоўнай “Гродненской правды” Паўла Сухарукава?

Толькі навошта тады само міністэрства на чале з Ліліяй Ананіч, калі яно не кантралюе выкананне рэдакцыямі закона, якім тыя павінны перш-наперш кіравацца ў сваёй дзейнасці? Ці, можа, і для галоўнага інфармацыйнага ведамства краіны закон не пісаны, а выцясненне са старонак газет адной дзяржаўнай мовы (сваёй, між іншым) другою, хоць сёння і дзяржаўнаю, і ёсць яго палітыка?

**Аляксандр НАВІЦКІ.**

ВАЧЫМА МАСТАКА




Малюнак Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ

РУБАМ!

## Ці дазволіць Мінскі гарвыканкам правядзенне 15 сакавіка «Маршу недармаедаў»?

Так, учора прадстаўнікі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), Беларускай партыі “Зялёныя”, Аб’яднанай грамадзянскай партыі, аргкамітэта па стварэнні партыі “Беларуская хрысціянская дэмакратыя” падалі ў Мінскі гарвыканкам заяўку на правядзенне 15 сакавіка так званага “Маршу недармаедаў” ад Нацыянальнай акадэміі навук да плошчы Бангалор.

Адказ сталічных улад будзе за некалькі дзён да вызначанай даты. Але ўжо сёння вядома, што плануемая акцыя мае прынцыповае значэнне. Яе скіраванасць – супраць дэкрэта прэзідэнта №3 “Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрыманства”.

ЖЕНСКИЙ ВЗГЛЯД



Марина КОКТЫШ

## С кем собрался воевать Валерий Малашко?

Редкий министр при аудиенции у президента во время назначения позволяет себе больше, чем просто кивок или пару дежурных фраз. Как правило, слушая наставления главы государства, все сидят, выпрямив спину, или что-то помечают на бумаге. И в основном молчат. Уже за пределами кабинета коротко комментируют на телекамеру свое назначение.

Назначенный в конце минувшей недели министр здравоохранения **Валерий Малашко** эту традицию нарушил. Он весьма своеобразно ответил Александру Лукашенко, который объяснил стране, почему через полтора месяца после назначения Малашко министром труда вдруг перебросил его на Министерство здравоохранения.

*«Спасибо за лестные слова,* – деликатно поблагодарил Валерий Анатольевич президента за комплименты в свой адрес. – *Действительно, для меня это не то чтобы долгожданно, но вся моя жизнь была связана со здравоохранением…*

*8 лет назад, назначая меня на должность зампреда облисполкома, вы говорили о том, что мы солдаты вашего войска. Поэтому у меня вообще не возникает никаких сомнений. Если вы видите во мне министра здравоохранения, то я готов».*

Сколько уже было таких чиновников, которые с подобострастием говорили аналогичные слова А.Г.Лукашенко и в любой ситуации брали под козырек!

Казалось, в ноябре 1996 года вся страна сочувствовала министру обороны генералу **Леониду Мальцеву**, которого со скандалом отстранили от должности. Мальцев выступал на вечере, посвященном юбилею Минского мединститута. Не успел он сойти с трибуны, как Александр Лукашенко объявил: *“Перед вами выступал бывший министр обороны...”* На следующий день был подписан указ об отставке Мальцева *“за проступок, дискредитирующий воинское звание офицера (появление в общественном месте в нетрезвом состоянии)”*. Хотя писали, что на самом деле Мальцев был не пьян, что это была какая-то провокация.

В марте 2001 года генерал вернулся в Министерство обороны. Снова министром. Только через много лет он так прокомментировал свою скандальную отставку: «*Когда меня вызывают и предлагают должность, я всегда отвечаю: “Есть!” – и вперед. Значит, так надо…*»

В 2000 году бывшему командиру воинской части 3214 **Дмитрию Павличенко** хотели предъявить весьма серьезные обвинения, связанные с устранением **Юрия Захаренко, Виктора Гончара** и **Анатолия Красовского**. Павличенко был в СИЗО КГБ, его допрашивали следователи, когда Лукашенко дал команду доставить офицера к себе на разговор. После той беседы за закрытыми дверями Павличенко вышел на свободу и перед телекамерами заявил: «*Готов выполнить любой приказ президента!*»

*Бывшего премьер-министра* **Геннадия Новицкого** *увольняли с должности, можно сказать, с комментарием «Профнепригоден!». Он, образно говоря, плакал, когда узнал о своей отставке. В конце концов выплакал должность главы Совета Республики и коттедж в Дроздах.*

Больше 10 лет назад щедро польстил главе государства бывший губернатор Брестской области **Константин Сумар.** Во время селекторного совещания в прямом эфире на реплику Лукашенко *«Я же не Бог!»* чиновник с многозначительной улыбкой ответил: *«Вы немножко выше!»*

Где теперь все эти отставные солдаты войска Лукашенко – другой вопрос. Кстати, сегодня некоторые из них уже крайне недовольны происходящим в стране, озираясь по сторонам, тихо клянут режим… Раскаиваются ли в своем прислужничестве? Вряд ли. За труд придворных лизоблюдов им в свое время хорошо заплатили. Кому – коттеджем, кому – свободой.

*«Судя по отзывам, Валерий Малашко, кстати, потомственный врач, несмотря на многолетнюю работу в Могилевском облисполкоме, остался вполне приличным человеком»,* – писали некоторые СМИ, когда Малашко назначили министром труда.

*«Живу в Могилеве, и мне нечего сказать о его работе,* – такую характеристику дали министру Малашко на одном из форумов в интернете. – *Да, приятный, интеллигентный мужчина. Не тыкает, не гэкает – согласитесь, сейчас это уже много. Но никаких конкретных дел и подвижек с его участием в Могилеве не замечено.Станет он такой же марионеткой, как и все в этой своре».*

Зачем, как пишут на форумах, «приличный человек» Малашко добровольно записался в войско, имеющее, прямо скажем, весьма сомнительную славу? Не подумав? От чрезмерного волнения?

Если ты профессионал – работай, доказывай свой профессионализм делом, реформируй систему, в которой проблем выше крыши. Тем более, как сказал президент, из полутора десятка кандидатур, предложенных на должность министра, Малашко имеет самый высокий рейтинг.

Зачем же эти клятвы в верноподданничестве? Чтобы участок получить в Дроздах?

Да и с кем воевать собрался министр здравоохранения? С пациентами? Или с кем прикажут?

Как говорится, поживем – увидим.

СЛЫШАЛИ?

## Умерла секретарша Геббельса

Брунхильда Помсель, секретарша Йозефа Геббельса, скончалась в Мюнхене в возрасте 106 лет, радуясь своей бездетности.

Долгожительница оставалась одной из немногих, кто лично знал лидеров НСДАП и выступал со свидетельствами о трагической эпохе. Несколько лет назад она впервые дала серию интервью, рассказав о работе в Министерстве пропаганды Третьего рейха и личных впечатлениях от шефа.

Она умерла с убеждением, что нет ни Бога, ни справедливости.

СТАЛА ВЯДОМА...

## Аляксандр Забароўскі не застаўся без работы

Звальненне Аляксандра Забароўскага з пасады першага намесніка міністра эканомікі многія ацанілі як своеасаблівую расправу з чыноўнікам ліберальных поглядаў. Нейкіх афіцыйных тлумачэнняў на гэты конт не з’явілася. Але стала вядома, што без работы А.Забароўскі не застаўся. Літаральна праз пару дзён з’явілася інфармацыя: вядомы эканаміст цяпер лічыцца дарадцам старшыні праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь.

**Валерыя КУЗНЯЦОВА.**



НУ І НУ!

## Недзіцячыя гульні

*У Брэсце знайшлі радыеактыўны аднаразовы падгузнік.*

Як паведамілі ў прэсслужбе МНС, небяспечны тавар выявілі падчас праверкі на смеццеперапрацоўчым заводзе.

Паказанні прыбора ля пакета з падгузнікам сведчылі пра перавышэнне нормы радыяцыйнага фону ў 37,5 раза. Папярэдні аналіз рэчыва, што знаходзілася ў падгузніку, паказаў, што гэта ёд-131. Ратавальнікі забралі падгузнік у металічную скрыню для яго далейшай утылізацыі.

ПРАЕКТ

## Вяртанне балот

Больш за чатыры мільёны долараў выдзяляе Беларусі ПРААН і Глабальны экалагічны фонд на рэалізацыю праекта "Тарфянікі-2". Фактычна сродкі пойдуць на аднаўленне парушаных балот.

**Сцяпан КОРЗУН.**

СУД

## За кошт Зміцера Дашкевіча ўлады папоўняць казну

Дзяржбюджэт трашчыць па швах, калі выносяцца такія прысуды прадстаўнікам апазіцыі. Так, Першамайскі суд г.Мінска ў чарговы раз аштрафаваў Зміцера Дашкевіча на вялізную суму. За "непадпарадкаванне законным патрабаванням супрацоўніка міліцыі" ён павінен унесці ў казну 1150 рублёў (у эквіваленце гэта 600 долараў).

Калі глядзець відэа, якое прадставіў З.Дашкевіч, то пра правапарушэнне не можа ісці і гаворкі. Але ж беларускія суды вераць толькі сведчанням міліцыянтаў. Хоць, паводле сцвярджэнняў Зміцера Дашкевіча, іх пратакол ілжывы.

**Ніна КРУПНІЦКАЯ.**

ЗА ПРАХАДНОЙ

## Галоўны будынак «КІМ» выстаўлены на продаж

*Запазычанасць па заробках захоўваецца.*

ААТ «Класіка індустрыі моды» ў Віцебску было прызнана банкрутам летам 2015 года. У прадпрыемства ўзніклі вялікія даўгі, якія захоўваюцца да гэтага часу. Каб выплаціць заробкі былым работнікам, кіраўніцтва распрадае маёмасць.

Як паведамляла раней «Народная Воля», дзіцячы лагер «Чайка» пад Віцебскам сышоў з малатка. На яго тэрыторыі новы ўладальнік збіраецца адкрыць аграсядзібу.

Днямі стала вядома аб выстаўленні на продаж асноўнага будынка прадпрыемства і іншых збудаванняў. Яго першапачатковы кошт складае больш за 7,5 мільёна рублёў.

– *На продаж выстаўлена ўсё прадпрыемства,* – сказаў «Народнай Волі» антыкрызісны кіраўнік ААТ «КІМ» Павел Заяц. – *Запазычанасць перад работнікамі складае 70 працэнтаў. Тэрміны ліквідацыі «КІМ» будуць пераносіцца, пакуль пытанне канчаткова не сыдзе. Рэалізацыя аб'ектаў ідзе праблематычна. І віцебская фабрыка тут не выключэнне – такая сітуацыя ў цэлым па краіне.*

Пасля абвяшчэння ААТ «КІМ» банкрутам кіраўніцтва горада і фабрыкі прапанавалі людзям працаўладкаванне на іншых аб'ектах Віцебска. Але новымі вакансіямі ў 2015 годзе скарысталіся адзінкі, патлумачыўшы гэта нізкімі заробкамі.

**Раман ВАСІЛЬЕЎ.**

ЗНАКОВЫЙ БРЕНД

# Без белорусских валенок ни в Сибири, ни в Баку не обойтись



*Василий Николаевич Сабан – не пилот, не агроном, но всегда сверхвнимателен по отношению к прогнозам погоды и на завтрашний день, и к долгосрочным. Потому что продукция фабрики, которую он возглавляет, помогает людям преодолевать холода, морозы и метели. Большинство из нас оценивают валенки как архаичную обувь. Но они, оказывается, стараются топать в ногу со временем, чтобы не очутиться в полном забвении, на свалке.*



*Нам удалось перехватить Василия Сабана, директора Смиловичской валяльно-войлочной фабрики, в Минске. Именно удалось, потому что значительную часть рабочего времени он проводит в командировках.*

– Перед началом сезона, – рассказывает Василий Николаевич, – побывал в Тюмени, Новосибирске. Несколько ярмарок проводились в Москве, там необходимо было представить продукцию фабрики. Сейчас собираюсь съездить в Красноярск. Там отделение посольства нашей страны возглавляет Виктор Владимирович Щетько, бывший зампред Минского облисполкома, приглашает с деловыми предложениями…

**– Насколько эффективны поездки по далеким российским регионам?**

– Можно отделаться, конечно, расхожим выражением, что под лежачий камень вода не течет. Но я скажу больше. Специфика нашей продукции такова, что в первую очередь интересуешься: а какие там зимы? По нашим белорусским представлениям в Новосибирске, Тюмени, Красноярске едва ли не вечная зима с трескучими морозами. А едешь туда – и видишь: там такая же погода, как и в Беларуси. От минус двух до плюс одного в декабре и январе. Вот вам и сибирские морозы. Но в уныние впадать не стоит. Мы находим там спрос на свою продукцию, любые усилия не бывают напрасными. На сибирских просторах к теплой валяной обуви особая любовь. Есть масса потенциальных покупателей. Но рынок – любой – наскоком, с первого раза не возьмешь. Во-первых, изучаю его своими глазами, ушами. Не жалею времени на рукопожатия с деловыми людьми. Настойчивость оправдывает себя. Уже и сегодня есть первые результаты. Допустим, заключили мы договор на 4 миллиона российских рублей с сетью магазинов «Гигант» в Новосибирской области. Это мелочь для фабрики, а для них вообще ничто. Но большие дела начинаются с мелочи. Установились устойчивые торговые отношения с Екатеринбургом, в Петербурге появилась фирма, которая рекламирует нас и готова доставить по заказу наши валенки в любую точку СНГ.

**– Есть повод для большой радости?**

– Мне ближе осторожный оптимизм, а не безудержная радость… Сегодня с Россией торговать сложно, невыгодно. Практически, как говорится, кружимся возле нулевой отметки, а иногда и с реальными убытками. Поймите меня правильно: мы не настолько транжиры, чтобы проматывать результаты труда коллектива фабрики. Знаем, где надо остановиться. Есть такой аспект: не хочется терять рынки сбыта. Есть надежда, что условия могут поменяться в ближайшем будущем. У нас есть в России конкуренты. Если Беларусь закупает газ у них по 172 доллара за расчетное количество, то нам, производителям, приходится оплачивать тот же газ по 400 долларов. А наши российские конкуренты в этом смысле в райских условиях – только 72 доллара. Электроэнергия у нас в три раза дороже. Перевозки стоят огромных денег.

**– Откуда тут взяться оптимизму?**

– Мы же не кидаем туда, где сложно, все. Это только пробы. Хорошо сработала фабрика в нынешнем сезоне с Казахстаном. В эту страну продано продукции на 250 тысяч долларов, и мы продолжаем торговлю. С Украиной также получилось неплохо: им отправлены перед холодами валенки на 180 тысяч долларов. Они, надо отметить, позаботились о своей армии.

Азербайджанцы пообещали обязательно приехать в конце января с целью крупных закупок валенок для собственной армии.

В этом сезоне мы продали 150 тысяч пар на 26 миллиардов неденоминированных рублей.

**– Насколько можно понять, постоянная проблема для вас – сырье, шерсть. Где и как вы ее находите?**

– По-прежнему шерсть закупаем в Средней Азии, это и Казахстан, и Узбекистан, и Туркменистан.

**– Белорусской шерсти по-прежнему нет?**

– Белорусская шерсть есть, чуть-чуть. Но она очень хорошего качества. Если бы у нас развивали овцеводство, как планировали, мы горя не знали бы.

**– Василий Николаевич, как вы можете прокомментировать выполнение программы?**

– Мне бы не хотелось ставить оценки. Для этого есть эксперты. Я могу говорить лишь о некоторых аспектах и пожеланиях.

Есть подразделение, которое занимается научно-исследовательской работой в этом направлении. После принятия программы, а она нас порадовала, многие активно зашевелились. Но этот порыв, к сожалению, застыл, все осталось на стадии шевеления. Заметных результатов не видно. Как было в Ляховичском районе сильное овцеводческое хозяйство (раньше оно называлось «Конюхи», а сейчас «Жеребковичи»), так оно одно и осталось. У них поголовье овец около шести тысяч. В год они настригают и продают около 12 тонн шерсти. Из этого количества можно изготовить 5–6 тысяч пар валенок. Мизер.

Появился недавно еще один луч надежды. Под Логойском бизнесмены из Ирана организовали иностранное общество с ограниченной ответственностью «Истерн Шип» и открыли овцеводческую ферму. Фабрика у них уже закупила три тонны шерсти.

**Овцеводство в Беларуси сегодня выходит из застоя. Но, пожалуй, слишком медленно. В 1990-е по стране насчитывалось почти 500 тысяч голов, сейчас же чуть более 80. И это вместо запланированных программой по развитию отечественного овцеводства 100 тысяч. Что весьма удивительно, ведь овчинка по всем параметрам стоит выделки.**

**Баранина – это диетическое мясо с минимумом холестерина, молоко – ценный ингредиент в голубых сырах, а шерсть – хороший, а главное, свой, ресурс в легкой промышленности. Это понимают инвесторы.**

Меня приглашают, советуются. Но они хотят, чтобы я у них покупал шерсть в три раза дороже, чем в Средней Азии. Такой бизнес светит развалом фабрики.

Иранцы, молодцы, рискуют, не боятся, вкладывают деньги. Уверен, что они получат хороший результат.

А наши аграрники купят две овцы, затратят на них миллионы, настригут потом два килограмма шерсти… Далее следуют стоны, что у нас невозможно выращивать овец.

**– Ясно. Василий Николаевич, вы говорили, что 2014–2015 годы были критическими для фабрики…**

– Да. Продукция не шла. Зимы были теплые. Впору было думать о замене профиля, о сворачивании основного производства. А летом 2016-го я нашел американский прогноз для Европы, который в отличие от нашего, белорусского, предрекал настоящую зиму со снегом и морозами. И мы начали активный выпуск валенок, не боясь, что они застрянут на складе.

**– Но вы же не только валенки выпускаете?**

– Кстати, именно пошив одеял и подушек помог нам преодолеть кризис. Пришлось поездить по всем белорусским санаториям. Рекламировали вживую свою продукцию. Раньше там отдавали предпочтение суконным одеялам и пухо-перьевым подушкам. Мы для начала предложили сотрудникам санатория «Радон» приобрести для себя, для дома наши одеяла и подушки. Ход сработал. Самая лучшая реклама – это положительный отзыв соседа, друга, сослуживца. Одеяла и подушки стали закупать и для санаториев. Наши люди посещали все учреждения, организации, где выплачивают более-менее приличные зарплаты. В день выручка доходила до 40–50 миллионов рублей на старые цены. Доброе слово необходимо сказать о тканях Барановичского хлопчатобумажного объединения. Они нас здорово выручают.

**– Как вам удается осовременивать валенки?**

– Покупаем новые швейные машины итальянские. Появилась даже вышивальная четырехигольчатая. С ее помощью можно оставить вышивку на чем угодно. Не боимся тратить деньги. Конечно, и риск присутствует. Немцы, скажем, предлагали одну стегальную машину за 123 тысячи долларов – дорого. Китайская оказалась в 6 раз дешевле. Три года работает безукоризненно.

На прикреплении подошв работает итальянская машина за 22 тысячи долларов. Дорого? Конечно! Но китайская, купленная для этой операции за 6 тысяч долларов, проработала только три недели – и безнадежно сломалась.

Мы выпускаем сейчас 33 модели валенок. С замками-молниями и без, с аппликациями, с голенищами разной ширины, под любую ножку…

**– Сезон близок к окончанию. Впереди весна. И что, валенки в кладовку? Фабрику на замок?**

– Да вы что?! Цеха работают сейчас в три смены. Это медведь ложится зимой в спячку. Мы же в спячку лечь не можем, но жир накапливать уже начали. На будущий сезон.

Рассчитались с налогами. Заплатили за все виды энергии. Без государственной поддержки.

**– Злободневный и насущный вопрос о зарплате.**

– На фабрике работает 122 человека. При желании можно зарабатывать и получать без задержек 1000–1200 рублей в месяц (деноминированных).

**– Как вы относитесь к ремесленникам, к шаповалам?**

– С огромным уважением, они сохраняют старинный промысел. На стареньких, добитых машинах творят чудеса. Я им желаю успехов!

**– В заключение, пожалуйста, прогноз: не отойдут ли скоро валенки как вид обуви?**

– Нашей фабрике экономически выгоднее было бы отказаться от выпуска валенок. Ведь одеяла и подушки из овечьей шерсти идут нарасхват, влет. А валенки – очень затратная продукция, сбыт зависит от морозов. Но они – наш бренд, как теперь принято говорить, наша гордость. И лучшая обувь для человека в холода.

**Николай ДЫМ, Андрей НИКОЛЬСКИЙ.**
**г.п.Смиловичи Червенского района.**



### В 2013 году постановлением Совета министров Республики Беларусь была утверждена Республиканская программа развития овцеводства на 2013–2015 годы.

Приводим некоторые выдержки из нее.

«В 1985 году в стране численность овец составляла 382 тыс. голов, было произведено 906 тонн шерсти. В настоящее время (в 2013 году) имеется всего 52 тыс. голов, в том числе в общественном секторе – 6 тыс., в фермерских хозяйствах – 4 тыс., в частном секторе – 42 тыс. голов овец.

Годовая потребность Республики Беларусь в шерстяном волокне составляет 3,25 тыс. тонн, в том числе мериносовом – 1,6 тыс. тонн. Для получения такого количества шерсти, если настриг на 1 голову составит 3–3,5 килограмма, необходимо иметь 1–1,2 млн голов овец, в том числе 0,6 млн овцематок, 16–20 тыс. баранов-производителей и 280–300 тыс. ремонтного молодняка. В структуре стада овцематки должны занимать 50–65 процентов».

«Результаты мониторинга, проведенного РУП «Научно-практический центр Национальной академии наук Беларуси по животноводству», свидетельствуют, что оптимальное количество овец для республики в 2015 году должно быть около 100 тыс. голов, в том числе овцематок – не менее 52,5 тыс. голов. Для размещения такого поголовья овец необходимо построить и реконструировать 230 помещений мощностью 500–1000 голов.

Названное количество овец обеспечит в 2015 году получение 260 тонн шерсти, баранины в убойной массе около 0,7 тыс. тонн в год».

«Выполнение настоящей Республиканской программы позволит за 3 года:

уменьшить объемы закупок шерсти по импорту на 260 тонн;

уменьшить объемы закупок овчин по импорту на 80 тыс. штук;

сэкономить валютные средства в сумме около 4,5 млн долларов США;

реализовать на убой овец живым весом 1590 тонн;

получить около 700 тонн баранины, что позволит обеспечить потребности внутреннего рынка в данной продукции животноводства, в том числе ОАО «Оршанский мясоперерабатывающий комбинат»;

увеличить валовую продукцию сельского хозяйства на 190 млрд рублей».

### Племенные заводы по разведению овец

1.Сельскохозяйственный производственный кооператив «Жеребковичи», Ляховичский район Брестской области.

2.Республиканское унитарное предприятие «Витебское племпредприятие», г.Витебск, Витебская область.

3.Сельскохозяйственный производственный кооператив «Хвиневичи», Дятловский район Гродненской области.

4.Иностранное общество с ограниченной ответственностью «ИСТЕРН ШИП», Логойский район Минской области.

Народная Воля http://www.nv-online.info
31 студзеня 2017 г.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Станіслаў ШУШКЕВІЧ: «Калі б дэпутаты не зайшлі ў буфет, мяне маглі адправіць у адстаўку яшчэ ў 93-м…»



*26 студзеня 1994 года большасцю галасоў дэпутатаў са сваёй пасады быў адклікаsucc старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч. Ён распавёў “Народнай Волі” пра падзеі 23-гадовай даўніны…*

– Для мяне тая адстаўка нечаканасцю не была, бо яшчэ перад гэтым, летам 1993 года, не хапіла шасці галасоў, каб выказаць мне недавер, – *успамінае наш суразмоўца.* – І ведаеце, чаму не хапіла? Я выбраў такі момант для галасавання, калі многія пайшлі ў буфет ужо адзначаць маю адстаўку, і не ўсе вярнуліся. Таму тады шасці галасоў так і не хапіла, каб мяне “заваліць”, а я пасля гэтага распусціў парламент на летнія канікулы.

**– Значыць, ваша адстаўка была справай часу?**

– Так, але перад гэтым я вельмі хацеў, каб адбыўся візіт у Беларусь прэзідэнта ЗША Біла Клінтана. Гэта была адна з апошніх задач, якую я мог выканаць на пасадзе старшыні. Больш з гэтым парламентам, як кажуць, кашы было не зварыць, таму што, ачомаўшыся пасля жнівеньскага путчу 1991 года, ажылі камуністы, і старая наменклатура панавала ў парламенце. Я спакойна ўспрымаў сітуацыю, але напрыканцы 1993 года ўсё-такі не паехаў на саміт у Ашхабад. Лёг у бальніцу, бо трэба было захаваць сваё месца старшыні Вярхоўнага Савета, каб здзейсніць візіт Клінтана. А ўжо пасля 15 студзеня 1994 года, калі адбыўся гэты візіт, па сутнасці, нічым і не займаўся. Чакаў свайго часу.

**– Чаму так шмат дэпутатаў жадала вашай адстаўкі?**

– Па-першае, супраць мяне была ўся парламенцкая наменклатура. Яны ў стане страху абралі мяне пасля путчу і думалі, што перавыхаваюць Шушкевіча, а затым перацягнуць на свой бок. Але ж не атрымалася. Па-другое, нават Беларускі Народны Фронт са мной не вельмі ладзіў. Яны лічылі сябе чыстымі беларусамі, а мяне – не вельмі “чыстым”.

**– Ці памятаеце, як адбывалася галасаванне 26 студзеня 1994 года?**

– А я пры гэтым нават не прысутнічаў. Спецыяльна застаўся дома, бо добра ведаў, што будзе адбывацца ў Вярхоўным Савеце. У мяне ля кватэры яшчэ ахова была, але, як толькі па тэлевізары я пачуў пра сваю адстаўку, ужо праз 5 хвілін дома перастала працаваць спецсувязь, і зніклі ахоўнікі.

**– Не было роспачы?**

– Не было, таму што мне за час старшынства ў Вярхоўным Савеце шмат што ўдалося зрабіць. Мірна быў распушчаны Савецкі Саюз, былі прыняты стратэгічныя рашэнні аб вывадзе ядзернай зброі, прынята праграма прыватызацыі і нават было прызнана права прыватнай уласнасці на зямлю…

**– Ведаеце, хто канкрэтна быў ініцыятарам галасавання аб вашай адстаўцы?**

– Не ведаю і нават не цікавіўся, таму што гэтую ініцыятыву падтрымлівала ўся парламенцкая наменклатура. Магчыма, галоўнай асобай тут быў Вячаслаў Кебіч, але ў такім выпадку ён быў таемнай асобай. Адкрыта пра маю адстаўку ён не гаварыў.

**Алесь СІВЫ.**

ДУХОЎНЫ СКАРБ

# Вернем Дубоўку беларусам!

Выдавецтва “Лімарыус”, добра вядомае сваімі выданнямі Збору твораў Ларысы Геніюш у 2 тамах і анталогіі беларускай паэзіі XX стагоддзя “Краса і сіла”, распачало збор сродкаў на выданне двух тамоў аднаго з буйнейшых беларускіх паэтаў – Уладзіміра Дубоўкі. У гэты самы поўны збор увойдуць усе вядомыя вершы Дубоўкі, яго пераклады, артыкулы, выбраныя лісты.

Лёс Дубоўкі – незвычайны нават у параўнанні з трагічнымі лёсамі іншых беларускіх паэтаў. Дубоўка быў асуджаны на 25 год лагераў і ссылкі за патрыятычныя вершы, мужна вытрымаў усе выпрабаванні і вярнуўся ў паэзію. Ён і Ларыса Геніюш – сімвалы стойкасці беларускай літаратуры, таму вяртанне іх паэтычнай спадчыны – добры знак нацыянальнага адраджэння.

Падпіска на двухтомнік Ул.Дубоўкі ажыццяўляецца на інтэрнэт-платформе “Талака” – www.talaka.by. Дарэчы, і слова “талака” з’явілася ў беларускай мове дзякуючы менавіта Дубоўку.

На выданне сярод іншых падпісаліся паэты Уладзімір Някляеў, Наталля Русецкая, Антон Францішак Брыль, літаратуразнаўцы і гісторыкі беларускага замежжа Лявон Юрэвіч і Наталля Гардзіенка, лідар “Маладога фронту” Зміцер Дашкевіч. Падпісалася і першы нобелеўскі лаўрэат незалежнай Беларусі Святлана Алексіевіч, якая, дарэчы, лічыць Дубоўку найбольш значным і важным для сучаснай Беларусі паэтам з яго пакалення.

У кнігарнях гэтага выдання не будзе, але ж у чытачоў “Народнай Волі” ёсць магчымасць далучыцца да гэтых і іншых паважаных знаўцаў і аматараў творчасці Уладзіміра Дубоўкі. Каштаваць два тамы ў цвёрдым пераплёце, выдатна аформленыя адным з найлепшых беларускіх мастакоў кнігі Генадзем Мацурам, будуць 65 рублёў (без уліку паштовых выдаткаў).

**Марына ШЫБКО.**

## Уладзімір ДУБОЎКА

### Трыпціх

**1**

Жыццё маё – ці васілёк, ці ружа:
вялізманая кветка дыядэмай.
Твае пялёсткі лёс у свет цярушыць:
адзін… другі… І так –
як след за следам.
Вялізманая кветка дыядэмай
цвіце у росах, радасці і суме.
Адзін… другі… І так –
як след за следам
гады і дні злятаюць і красуюць.
Цвіце у росах, радасці і суме,
з лісцём зялёным песні запявае.
Гады і дні злятаюць і красуюць,
прасцяг хвалююць, кволяць,
кучаравяць.

**2**

Шукаю ўсё, чым смагу тую знішчыць,
імкнуцца скаргі – кані над вадою.
Пад светам змірсцяцца
і гінуць знічкі,
узлёты новыя узлёты родзяць.
Імкнуцца скаргі – кані над вадою,
хто словам прывітання іх спаткае?
Узлёты новыя узлёты родзяць,
каб праляцець над краем
зноў жа каняй.
Хто словам прывітання іх спаткае:
хіба вятры, хіба над борам месяц?
Я праляту над краем разам з каняй:
Адзін памоліцца, той пасмяецца…

**3**

Здаецца, восень грае на цымбалах,
вятры разносяць пошчак у прасторы.
Прачнецеся! – вясна ў душы
зайграла,
А восень знікла раніцай учора.
Вятры разносяць пошчак у прасторы,
Усіх бадзёраць, заклікаюць: «Варта!»
Хоць восень знікла раніцай учора –
Рады гартуйце смеласцю упартай.
Усіх бадзёрыцьзаклікаць ці варта:
няма з паловы й не было карысці.
Рады гартуйце смеласцю упартай.
– Ой, вечар, вечар, ды не вечарыся.
*1926*




### О Беларусь, мая шыпшына

О Беларусь, мая шыпшына,
зялёны ліст, чырвоны цвет!
У ветры дзікім не загінеш,
чарнобылем не зарасцеш.

Пялёсткамі тваімі стану,
на дзіды сэрца накалю.
Тваіх вачэй – пад колер сталі –
праменне яснае люблю.

Ніколі пройме з дзікім ветрам
не развіваць дзявочых кос.
Імкнешся да Камуны Свету,
каб радасць красавала скрозь.

Варожасць шляху не зачыніць:
у перашкодах дух расце.
О Беларусь, мая шыпшына,
зялёны ліст, чырвоны цвет!
*1925*

***

Ты мне гаворыш, што долю і волю
бачыць не суджана нашай айчыне?
Вецер ганяе тут попел над полем,
попел у спадчыну вораг пакінуў?
Беднасць пануе ў пясках і каменні,
стогне народ пад абцасам у пана?
І да святла ў нас не будзе імкненняў,
бо найгарчэйшае наканава?
Годзе і годзе, таварыш пакорны!
Так жа было, але гэтак не будзе!
Нас недарэмна малолі у жорнах, –
з кожнай пракруткай мацнелі ўсё людзі.
Выдзьме ўвесь попел,
як ворага вецер,
выжане рабскую кроў і пакору.
Займе айчына пасад свае ў свеце,
заўтра – не будзе падобна на ўчора.
Шчасце здабудуць мазольныя рукі,
шчасце мы створым сваімі рукамі.
Ведаць не будуць пра гора унукі,
Што панавала адвеку над намі.
*1922*

ПИСЬМО ПОЗВАЛО В ДОРОГУ

# Поп-расстрига, кузнец своего… несчастья



Василий Тумилович написал письмо в редакцию – и за внимание к «Народной Воле» человеку большое спасибо. Мы ценим каждого нашего читателя.

Но решить вопрос Василия Николаевича мы, к сожалению, не можем. Тумилович, бывший священник, так осерчал, обиделся на церковь, что написал в письме, что сейчас вообще обходится без религии, чуть ли не отрекается от нее. Для человека, служившего у алтаря, заявление более чем шокирующее. Отчего же он так вознегодовал? Какие сомнения теперь разъедают его душу? Болезнь эта временная или отпадение от веры осознанное и бесповоротное? Впрочем, Бог не оставляет без своей благодати даже заблудившихся своих детей.

Я встретилась с В.Н.Тумиловичем в Лунинце – в деревне под городом живет теперь бывший священник. Чем занимается, он не открылся. Намекнул, что подрабатывает, ведь пенсия у него минимальная. Вообще-то большинство в Лунинце и соседних районах живет огородничеством. Огурцы, клубника, яблоки – здешние люди трудятся азартно, торгуют умело. И строятся, строятся. В городе строительных магазинов в разы больше, чем храмов.

Но и духовный подъем не обошел Полесский край. В конце 1990-х открывались новые храмы, а священников не хватало, и энергичных, благочестивых людей быстро рукополагали в сан. На этой волне пришел служить в церковь в 2000-м и Василий Тумилович. Человеком он был верующим с малолетства. За это в советском отрочестве и юности не раз «прорабатывался» старшими товарищами в школе и армии, но все-таки шел своим путем и окончил духовную семинарию.

Потом судьба вильнула зигзагом: работал школьным учителем, увлекся краеведением, окончил Могилевский университет. Прошли годы, было Тумиловичу за сорок, когда он написал митрополиту Филарету просьбу о восстановлении в священстве, так как принял-таки решение идти служить в храм. Просьбе вняли, отправили в Витебск. Но здесь у новоявленного батюшки случились трения. Не с верой, с церковной обыденностью. Вот как он сам мне рассказывал:

– Приезжаю к архиепископу, встречаюсь с ним. Он обещает золотые горы: место священника, помощника архиепископа по историческим вопросам, референта епархии, главного редактора газеты «Епархиальные ведомости». Но на деле все вышло по-другому. А я ведь уже уволился из школы, выписался из квартиры, потерял очередь на улучшение жилищных условий. И что получил взамен? Мне обещали церковный домик. И знакомый советовал: «Иди, игра стоит свеч!» А домик-то оказался плохой, дров для отопления нет…

Твердая материальная озабоченность бывшего духовного служителя неприятно резала слух. А Василий Николаевич и не скрывал: он обижен на церковь, потому что предполагал получить от нее гораздо более солидные блага, чем имел на «гражданке». Я слушала, и у меня складывалось впечатление, что человек не служить шел, а просто менял профессию учителя на более выгодную, по его мнению, профессию священника. Но прогадал, не вышло ему больших дивидендов.

В Витебске Тумилович долго не задержался, вскоре нашел возможность перевестись служить в Брестскую область, Каменецкий район. Там, конечно, люди более зажиточные. И Тумилович прослужил у алтаря почти десять лет. Хотя и с конфликтами.

– Потому что я всегда имел свою линию, – объясняет свою непростую судьбу Василий Николаевич. – Извините меня, но я никогда никому не позволял сесть мне на голову и высморкаться. В том числе архиерею.

Да, с таким бойцовским характером трудно человеку где бы то ни было, тем более проповедовать смирение с амвона. Бывший батюшка рассказал, что вознамерился однажды вступить в Союз писателей Беларуси, так как писал брошюры по краеведению и этнографии. Конечно, с таким литературным багажом не во всякий союз примут. Однако в СПБ у нас творческая планка невысокая, были времена, когда прием туда был практически массовый. Но батюшка, прежде чем идти в писатели, должен был получить благословение архиерея – этого требуют правила церковной жизни. И Тумилович о них прекрасно знал. А не захотел просить позволения у священноначалия…

Мне кажется, что-то всегда претило Василию Николаевичу подчиняться, но называть это свободолюбием я не стала бы. При нашей краткой встрече пыталась понять – что? И видела качества неприятные: дерзость, гордыню и самомнение. То, что с религиозным саном совершенно несовместимо. Кстати, на заседании Брестского областного отделения писательского союза Тумиловича приняли единогласно, а вот председатель Союза писателей Беларуси Чергинец в Минске своевольного батюшку не утвердил. Николай Иванович знает, что такое твердая дисциплина.

В общем-то это лишь эпизод из жизни бывшего священника, хотя и довольно много говорящий о его характере. Потом случались у него конфликты более обыденные, о которых Василий Николаевич тоже мне рассказывал. Его направляют в паломничество – он ехать отказывается, его посылают в командировку – ропщет, не едет. Церковная дисциплинарная комиссия сделала Тумиловичу строжайшее предупреждение. За ним установили присмотр. Он оскорбился, взбунтовался. И решил из церкви уйти обратно в светскую жизнь.

И состоялся у Тумиловича с брестским епископом примерно такой разговор (со слов Василия Николаевича): «Владыко, где вы видели бедного попа? Я потерял квартиру, сдуру выписался. Дайте мне приход побогаче, хочу лучше обжиться до пенсии, хоть на жилье насобирать. И больше мне ничего не надо. Служить в церкви потом не буду». Епископ, рассказывает Тумилович, почернел лицом, как земля. Спросил: «А чем будешь заниматься?» Тумилович честно ответил: «Садом и огородом».

Еще бы: на Полесье сад и огород дает трудолюбивым хозяевам хорошую прибыль. Вот батюшка и рассудил, что пора ему сматывать свои церковные удочки и заняться практическим делом. Тогда-то священнику Василию Тумиловичу и вышло запрещение. Его лишили сана. Справедливо, конечно. Но ему этого мало! Он хочет отлучения – как у графа Льва Толстого (так и написал в письме). Зачем? Чтобы скандалом поразить белый свет? Но Тумилович не Толстой – не прозвучит даже и в районе.

Согласитесь, нетривиальная история. И очень неприятная, с каким-то базарным душком: недодали в церкви батюшке... Ушел обиженный… Конечно, в церковь на православной волне нового времени пришло много людей случайных или, точнее, не окрепших в своем выборе. И через некоторое время они покинули путь священства. Как, например, известный актер Иван Охлобыстин, бывший священник. А церковь и не держит людей силой. Тем более нет возражений, если человек покидает священство, когда начинает понимать, что взял на себя непосильную ношу, если чувствует, что опустошен, что гложут сомнения, может ли дать людям настоящую духовную поддержку, пастырский совет. Но здесь-то случай другой: человек искал, как мне кажется выгодное место и – просчитался. Впрочем, осуждать его права не имею. Каждый из нас несет ответственность за себя сам, и потому – каждый сам кузнец своего и счастья, и несчастья.

**Елена МОЛОЧКО.**
*Лунинецкий район.*

ПРЫСУД

# Аляксандр Мураўёў атрымаў 11 гадоў зняволення

*Бізнесмен, адзін з былых уладальнікаў завода «Мотавела», будзе адбываць пакаранне ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Згодна з прысудам, у яго канфіскуюць маёмасць.*




Аляксандр Мураўёў быў затрыманы супрацоўнікамі КДБ на пачатку чэрвеня 2015 года. Ён спрабаваў вылецець з мінскага аэрапорта ў сталіцу Аўстрыі, дзе знаходзіцца офіс яго інвестыцыйнай кампаніі АТЕС. У 2007 годзе зарэгістраваны ў Аўстрыі АТЕС Holding набыў «Мотавела».

**Вера ВІР.**

РАЗВІТАННЕ

# Яго песні будуць гучаць і праз гады…

*Учора ў Мінску развіталіся з народным артыстам Беларусі Аляксандрам Ціхановічам.*



Яму было ўсяго 64 гады.

З самага ранку ў храме Аляксандра Неўскага спачатку прайшла памінальная літургія і адпяванне, грамадзянская паніхіда пачалася ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі ў 11.00.

Зрэшты, людзі пачалі збірацца ля філармоніі яшчэ раней, а ў невялічкі павільён "Кветкі" ў пераходзе на станцыі метро "Плошча Якуба Коласа" выстраілася чарга, якая не знікала некалькі гадзін.

Уражвала і чарга тых, хто прыйшоў развітацца са спеваком. Яна апярэзвала ўсю філармонію. Тут былі і простыя аматары творчасці артыста, і вядомыя ў краіне людзі. Кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Наталля Качанава, віцэ-прэм'ер Васіль Жарко, міністр культуры Барыс Святлоў, былы кіраўнік Нацбанка Надзея Ермакова, спевакі Анатоль Ярмоленка і Аляксандр Саладуха, гаспадар футбольнага клуба БАТЭ Анатоль Капскі…

*"Мы былі знаёмыя з Сашам, раз-пораз з ім сустракаліся,* – распавёў Анатоль Анатольевіч. – *Апошні раз бачыліся, калі ён атрымліваў ордэн Францыска Скарыны. Адчуваў, што хварэе, сам ведаю, што такое цяжкая хвароба, але нешта распытваць было няёмка. А ўвогуле, гэта быў заўсёды вясёлы чалавек, як бы цяжка яму ні даводзілася. Я сам вырас на "Верасах", гэтыя песні будуць гучаць і праз гады…"*

…Труну з філармоніі выносілі пад мелодыю песні "Малінаўка", многія ціха спявалі і плакалі. Аляксандр Ціхановіч пахаваны на Маскоўскіх могілках.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**
















ЧУЛІ?

## Каго «сватаюць» у беларускую зборную?

*Ходзяць чуткі, што нацыянальную футбольную каманду можа ўзначаліць расійскі спецыяліст.*

Як паведамілі «Известия» са спасылкай на свае крыніцы, Мікалай Пісараў у найбліжэйшы час будзе прызначаны галоўным трэнерам зборнай Беларусі па футболе. Зараз Пісараў працуе старшым трэнерам расійскай маладзёжнай зборнай.

Праўда, афіцыйнага пацвярджэння гэтай інфармацыі пакуль няма.

ЗА ШЫЛЬДАЙ

## «Сон Гоголя» ці сон розуму?

Насупраць Нацыянальнага мастацкага музея адкрыўся новы магазін – нешта накшталт «хаты-чытальні». Заходзіш і трапляеш у стыльную кватэру з кніжнымі стэлажамі і зручнымі крэсламі. Ёсць кофемашына, а можна і гарбату замовіць, выбіраючы новую кнігу. Увогуле, пасядзець, пачытаць і нікуды не спяшацца. Слаўная ідэя! Толькі завецца кнігарня неяк абуральна дзіўна – «Сон Гогаля». Што, увогуле, не што іншае, як сінонім летаргічнага сну, якога баяўся Мікалай Васільевіч: маўляў, пахаваюць жыўцом, пераблытаўшы яго сон з вечным спакоем. Для інтэлектуальнай пляцоўкі, па-мойму, двухсэнсоўна.

Але ў шыльды ёсць і іншае адценне значэння. Яно, магчыма, не кожнаму кідаецца ў вочы. Мінск – горад шматнацыянальны. Але беларуса, чалавека тутэйшага, шыльда, напэўна, шакіруе. Сёння, калі мы ўсведамляем сваю ідэнтычнасць па макулінцы, гэта назва рэжа, як металам па шкле.

Добра выказаўся з гэтай нагоды Уладзімір Някляеў: *«Сёння ў Беларусі нацыянальная літаратура, увогуле культура – як жыўцом пахаваная. Крама гэтая – побач з домам, дзе жыў і памёр Уладзімір Караткевіч. А яе ўладальнікам сняцца сны Гогаля! Геніяльнага, безумоўна, пісьменніка, але Беларусь – гэта сон Караткевіча. Яна – сны Купалы: «Мне сняцца сны аб Беларусі..." І, між іншым, кнігарня гэтая месціцца каля Купалаўскага тэатра і станцыі метро «Купалаўская» – насупраць НАЦЫЯНАЛЬНАГА музея мастацтва.*

*Дык чаму не «Сон Купалы» – найпершага нацыянальнага паэта?..*

*Нехта можа сказаць: добра, што такая кнігарня-кавярня ўвогуле з'явілася. Хай сабе з гэтакай назвай (маўляў, прыкольна, а Някляеў не разумее). Так, добра, што з'явілася. Але калі ж мы ўрэшце (як пісаў Ніл Гілевіч, які таксама жыў паблізу з гэтым домам) «дойдзем да Беларусі»? Калі нарэшце хоць зрушымся ў гэты бок, пачаўшы паважаць сваіх і сваё? І ўжо ў сваім любіць Гогаля».*

**Алена МАЛОЧКА.**

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## Тэлепраграма будзе абноўлена ў ранейшым аб'ёме

Самыя розныя людзі чытаюць "Народную Волю". І рэдакцыя імкнецца дагадзіць усім. На жаль, не заўсёды ўдаецца.

Вось і на гэты раз эксперымент праваліўся. Улічваючы просьбу многіх з тых, хто прынцыпова не глядзіць расійскія тэлеканалы, мы, публікуючы ў мінулым нумары праграму на тыдзень, вырашылі абысціся без іх. І трапілі пад агонь тых чытачоў газеты, якія катэгарычна не пагадзіліся з гэтым.

Таму паведамляем: чарговая тыднёвая тэлепраграма будзе адноўлена ў поўным аб'ёме.

**Рэдакцыя.**

РЕЗОНАНС

# Нет дохода – нет налога

С большим интересом прочитала статью уважаемой Светланы Калинкиной «Налог на беду». Как всегда, интересно и аргументированно. К сожалению, есть две неточности, которые, впрочем, я заметила, вероятно, только потому, что более 20 лет занимаюсь темой налогообложения. Ставка подоходного налога в Беларуси 13%, а не 12%, как указано в статье. Ну и так называемый налог на тунеядцев введен не указом, а декретом. Впрочем, это мелочи жизни. А вот с чем точно не согласна, так это с тем, что этот декрет надо исправлять. Не исправлять его надо, а ОТМЕНЯТЬ!

Уже очень много аргументов приведено против этого налога. В «Народной Воле» его антиконституционность прекрасно разобрал Гарри Погоняйло. Хотела бы только привести еще один аргумент. Нам объясняют, что этот налог введен для тех, кто не платит подоходный налог. Но в статье 153 Налогового кодекса Республики Беларусь четко прописано, что объектом обложения подоходным налогом признаются ДОХОДЫ. А значит, нет дохода – нет налога. И плательщиками подоходного налога те, кто не имеет доходов, не являются. Нет ни объекта, ни облагаемой базы, если выражаться юридическим языком.

Справедливости ради надо признать, что за последние 20 лет в белорусской налоговой системе были положительные подвижки: не стало отдельных отчислений, например, на содержание дошкольных и некоторых других учреждений, с 24% до 20% снижена ставка налога на добавленную стоимость и до 18% – налога на прибыль, ушли от практически поголовного декларирования совокупного годового дохода с жуткими очередями в начале года в налоговых инспекциях. В последние годы активно внедряются электронные сервисы, и можно обратиться в налоговую, не совершая туда похода. Да, и здесь есть проблемы, связанные с внедрением в обязательном порядке тех же электронных счетов-фактур по НДС, когда предприятия вынуждены в условиях сложной экономической ситуации тратить средства на компьютерное обеспечение. Наверное, надо было сделать так, чтобы внедрение этих сервисов не выливалось в дополнительные расходы и чтобы для обеспечения этого требования не приходилось брать дополнительных работников в бухгалтерию. Но эти проблемы все же как-то решаемы. А вот с налогом на тунеядцев получилось только одно: большей дискредитации налоговой системы придумать крайне сложно!

Кстати, еще раз по поводу справедливости. Разработчиком и инициатором этого декрета выступило Министерство труда и соцзащиты. А крайними сейчас оказались налоговики, ведь это им приходится выслушивать все претензии. И не то чтобы их жалко… Жалко людей, которые получили это жуткое извещение из налоговой инспекции и попали под раздачу. А таковых уже свыше 440 тысяч, больше, чем население любого областного центра! Поэтому выход только один: прекратить нагнетать социальную напряженность, которая точно еще может усилиться, когда начнут применять административную ответственность за неуплату этого налога, и оперативно отменить декрет.

**Валерия ГЕРАСИМОВА, кандидат экономических наук.**

Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

9 772071 964000 17009

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 30.01.2017 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 24 570 экз. Заказ № 82.